**Ніва**

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 28 (854) ГОД XVII БЕЛАСТОК 9 ЛІПЕНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.



*Юбілейны даклад пра жыццё і творчасць Янкі Купалы і значэнне яго ў беларускай літаратуры і польска-беларускіх літаратурных сувязях чытаў др Аляксандр Баршчэўскі.*

# СЛЕДАМ АДВЕЧНАЙ ПЕСНІ

**7** ліпеня 1882 года ў маляўнічым фальварку Вязынка на Міншчыне цёплай купалаўскай ноччу расцвіла кветка папараці. І прыняў свет яшчэ адно жыццё малой людской істоты — хлапчука, якому згодна з народнай традыцыяй далі імя Янка, а да якога ён — сын гэтай зямлі, прыдбаў потым вялікае і слаўнае прозвішча Купала.

Такім чынам старыннае, з часоў язычаскіх, народнае, багатае зместам і абычаямі свята Купалы аджыло ў жывым і творчым вобліку найбольшага, найбольш любімага, найбольш беларускага паэта тых земель, на якіх ад вякоў жыло беларускае племя.

Роля і значэнне Янкі Купалы (Луцэвіча) ў беларускай літаратуры і жыцці велізарныя. Стаўся ён неадлучнай часткай усяго народнага быту і духоўнага складу народа.

Купала жыве сярод нас сваімі вершамі, паэмамі, драмамі, жыве ўсёй сваёй багатай творчасцю, тамамі кніг жывога слова, якое ў спадчыне пакінуў.

Купалаўская ўрачыстасць у Беластоку была арганізавана Беларускім грамадска-культурным таварыствам і Таварыствам польска-савецкай дружбы. Адбылася яна 18 чэрвеня ў вялікай зале кінотэатра ТППР у Беластоку (там жа, дзе праходзіў І з'езд БГКТ і дзе святкавалася памятная вечарына 75-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы з удзелам яшчэ Уладзіславы Луцэвіч — жонкі Янкі Купалы).

Купалаўская ўрачыстасць цяпер была двухступенная: найперш даклад аб Купале прачытаў др Аляксандр Баршчэўскі. Потым слаўны мастацкі самадзейны калектыў з Гарадка паказаў наватарскую пастаноўку паэмы Янкі Купалы «Адвечная песня». Думка адаптаваць для сцэны гэты твор нарадзілася ў неспакойнай галаве Ніны Мушынскай. Музычна апрацаваў яе Сцяпан Копа.

Атрымалася свабодная сцэнічная транскрыпцыя вялікай паэмы Купалы. Увесь пачатак пастаноўкі праходзіў згодна з паэмай: родзіцца чалавек — Мужык, якога ў жыцці калісь чакалі доля і нядоля, якому спадарожнічаць будуць зменныя поры года і толькі яны будуць прыносіць яму свае дары.

У далейшай частцы пастаноўкі ўводзіць Гарадок на фон паэмы песні, вершы, сцэны з вясковага сучаснага жыцця — вясёлага і шчаслівага. Задума аўтараў пастаноўкі выразныя: прайшлі, як цёмная ноч, гады няволі і нядолі, жыццё нарадзілася для мужыка новае, лепшае. Мужык, ужо свабодны грамадзянін, жэніцца, а на вяселлі яго багатая застава і госці вясельныя гуляюць пад гукі «Лявоніхі».

Зграбна і без перастояў пабудаваны сюжэт гарадоцкай «Адвечнай песні», якая гучыць цяпер радасным аптымізмам.

Многа песень і многа вершаў пачулі мы ад Гарадка. Паэтычныя тэксты дэкламавалі здольныя людзі, а песні!.. Што ж, трэба пачуць было гэтую згодную каляровую сімфонію калектыву, каб ацаніць яе.

Сардэчнае дзякуй Гарадку за духоўную юбілейную купалаўскую страву.

*Вера Лейчук*

*Фота Цаф — П. Савіцкі*



*Пачатковая сцэна з пастаноўкі Гарадком «Адвечнай песні». На пярэднім плане маці над калыскай сына, ззаду: Жыццё, Доля, Бяда, Голад і Холад спраўляюць хрысціны над нованароджаным, даючы яму імя Мужык. Сцэна з паэмы ілюструе лёс чалавека ў дарэвалюцыйнай Расіі.*



*Доля Мужыка была даўней нялёгкай. Ад найменшых год цяжка працаваў пастухом у чужых.*




*Бурай Рэвалюцыі змяло цяжкі час. Нарадзіліся і для Мужыка новыя светлыя часы. Сцэна са спяваючымі жанчынамі характарызуе прыход лепшага. Песні гучаць «вольна і раздольна».*



*Неадлучныя сябры даўнейшага пастушка Поры Года прыносяць яму — цяпер вольнаму Гаспадару, дары зямлі з выпадку яго жаніцьбы.*



*Вяселле багатае, пад гукі «Лявоніхі» гуляюць усе госці Мужыка, якія перажылі з ім усе нядолі, а цяпер цешацца новым жыццём.*



*З прамоваю выступіў Стэфан Кэнска — камендант Беластоцкай харугві ЗГП у Беластоку.*



*Гродзенскія піянеры, якія прыехалі проста з лагераў (у Савецкім Саюзе ўжо былі канікулы), далі багатую і разнастайную мастацкую частку. Група маладзейшых піянераў у каляровых уборах (чаго, на жаль, не відаць на здымку) выконвае беларускі народны танец.*

## Ля кастра міра і дружбы

Сяброўства паміж Беластоцкім ваяводствам і Гродзенскай вобласцю з кожным годам пашыраецца. Адбываецца абмен думкамі па вытворчасці, культурны абмен, а нават абмен таварамі агульнага ўжытку.

Нядаўна ў Ялоўцы адбылася сустрэча дружбы гарцэраў нашага ваяводства і піянераў Гродзеншчыны. Сустрэча была арганізавана з нагоды 50-годдзя піянерскай арганізацыі, якую адзначаюць як піянеры, так і нашыя гарцэры.

Дзяржаўная граніца паміж Беласточчынай і Гродзеншчынай становіцца граніцай усё мацнеючай дружбы і міру.

**Фота А. Карпюк**



*Зразумела, нашыя гарцэры кожны нумар гасцей узнагароджвалі гарачымі воплескамі.*



*На сустрэчу прышлі сяляне з навакольных вёсак. Паколькі раніца была халоднай і дажджавой, малога Віцьку мама акрыла «хусткай».*




Пачатак чэрвеня. У васьмікласнай пачатковай школе ў Астраўку Сакольскага павету гарачы час — набліжаўся канец школьнага года. Пані **Зоя Юрылік** толькі што вярнулася з трохмесячнага водпуску, у часе якога пісала магістэрскую працу на тэму «Выкарыстанне тэлевізійных перадач у навучанні біялогіі ў класах VII—VIII пачатковай школы». Тэма працы нялёгкая, у многім адкрыўчая, патрабавала самастойных педагагічных эксперыментаў і доследаў. Пісала яе З. Юрылік пад навуковым кіраўніцтвам доц. др Веслава Ставінскага ў Вышэйшай педагагічнай школе ў Кракаве.

У школе З. Юрылік у асноўным выкладае беларускую мову. Вядзе гэты прадмет ужо васемнаццаць год. У школе ў Астраўку 72 вучняў, з іх беларускую мову вывучаюць 62 асобы, гэта значыць, усе дзеці, бо тут навучанне гэтага прадмета вядзецца ад другога класа, а ў першым класе ёсць 10 вучняў.

Пані Зоя мае свае выпрабаваныя метады ў навучанні роднай беларускай мове. У другім класе звычайна пачынае ад азнаямлення дзяцей з займальнымі байкамі, развучвае вясёлыя беларускія песенькі і вершы. Заахвочвае вучняў самім расказваць свае прыгоды. І школьнікам урокі роднай мовы становяцца найпрыемнейшымі хвілінамі іх побыту ў школе, а падручнікі па гэтаму прадмету — найцікавейшымі кніжкамі. Але настаўніца ніколі не абмяжоўваецца толькі падручнікамі. На яе ўроках часта гасцююць «Вясёлка», «Бярозка», «Ніва» з «Зоркай». З гэтых часопісаў пані З. Юрылік разам са сваімі выхаванкамі выбірае цікавыя п'есы, спачатку вучні чытаюць іх па ролях, потым падбіраюць сярод сябе найбольш адпаведных выканаўцаў і развучваюць твор для пастаноўкі на школьнай сцэне.

У школе ў Астраўку не адбываецца ніводная школьная ўрачыстасць, каб у праграме яе мастацкай часткі не было беларускіх песень, вершаў, інсцэнізацый. У мінулым школьным годзе на навагоднюю ёлку З. Юрылік разам са сваімі выхаванкамі выставіла



вельмі займальны «Карагод пад Новы год». Матэрыял пачарпнула з «Вясёлкі». Сцэнка карысталася вялікім поспехам сярод вучняў і была ўспрынята гарачым адабрэннем у бацькоў. Найлепшым акторам аказаўся Франак Камінскі (дасканала адыграў ролю мядзведзя).

Калі пані З. Юрылік была вельмі занята сваёй вучобай у ВПШ, мастацкай самадзейнасцю вучняў заняўся дырэктар школы Яўген Чабан. Пад яго кіраўніцтвам школьнікі паставілі п'есу А. Якімовіча «Чалавек-невідзімка», змешчаную ў «Бярозцы». Ставілі п'есу два разы: школьнікам і дарослым і вельмі ўдана. Выканаўцы: Федзя Алекша, Яланта Гудалеўская, Таіса Алекша, Зіна Бандарук аказаліся таленавітымі акторамі.

У школе ў Астраўку любяць беларускую кнігу. Праўда, ў школьнай бібліятэцы на 2300 тамоў на беларускай мове ёсць усяго каля 400 пазіцый. Але яны ўвесь час знаходзяцца ў чытанні. Настаўніца З. Юрылік няспынна клапоціцца пра пашырэнне чытальніцтва беларускіх кніг. Яна расказвае аб іх на ўроках беларускай мовы, кожную чвэрць прадбачвае кнігі для пазакласнага чытання і прысвячае ім спецыяльныя ўрокі. Беларуская кніга заўсёды прысутнічае на кніжных выстаўках у школе побач з кнігамі на польскай і рускай мовах. Кожны год у верасні або кастрычніку З. Юрылік спецыяльна выязджае ў Саколку або Беласток, каб новымі набыткамі з кнігарань узбагаціць школьны кнігазбор, а пры нагодзе — закупіць і патрэбныя вучням падручнікі па беларускай мове. Вучні і іх бацькі ў Астраўку не мусяць адпраўляцца ў пошукі падручнікаў па роднай мове, яны заўсёды ёсць у продажы ў самой школе.

Пад канец нашай размовы з З. Юрылік я выказаў свой непакой, што яна, здабыўшы магістра біялогіі, не будзе ўжо весці беларускай мовы ў школе.

— Што вы! — усклікнула пані Зоя. — Мне вельмі падабаецца біялогія, але ўсёй душой я люблю беларускую мову. І не толькі буду весці гэты прадмет у школе, але і паклапачуся, каб у гэтым годзе актывізаваць гурток БГКТ у суседніх Піражках. Займуся і конкурсамі на беларускую песню сярод школьнікаў і сярод дарослых. Мусім таксама рушыць драматычны гурток у Піражках. А ў нашай школе, дык тым больш — і інсцэніроўкі, і насценныя газеткі, і дэкламатарскі конкурс, і вечарыны... Я такую працу люблю!

**І мне было вельмі прыемна бачыць паню Зою Юрылік** — вопытнага педагога, настойлівага чалавека і самаахвярнага грамадскага дзеяча.

*Ігнат Снарскі*

## КААПЕРАТЫЎНАЕ БУДАЎНІЦТВА

У Міхалове, Беластоцкага павету пабудаваны першы кааператыўны блок на 36 сем'яў. Зараз жыллёвы кааператыў у гэтым мястэчку мае 100 членаў, сярод якіх значную колькасць складаюць рабочыя з мясцовай тэкстыльнай фабрыкі, з кравецкага кааператыва, ГС і іншыя.

*Фота: Я. Цялушэцкі*



 

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА

# АЛЕЯ ДРУЖБЫ

Было гэта восенню 1970 года. Калгаснікі калгаса Калініна Карэліцкага раёна адзначалі дваццацігоддзе сваёй гаспадаркі. На ўрачыстасць, звязаную з юбілеем, прыбыла дэлегацыя з калгаса імя Мікалая Астроўскага Чаркаскай вобласці на чале з старшынёй Аляксандрам Бортнікам. Украінскія таварышы прывезлі з сабой саджанцы перамідальных таполяў, якія тады і пасадзілі ля праўлення калгаса. Гэта алея — сімвал братэрства, еднасці ўсіх нацый і народнасцяў, аб'яднаных у Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Кожны дзень мы ўсё больш і больш становімся не толькі вачавідцамі, але і актыўнымі ўдзельнікамі вялікага працэсу ўзаемаўзбагачэння і збліжэння народаў. Дзякуючы гэтаму працэсу мацнеюць эканамічныя сувязі, рассоўваюцца нацыянальныя рамкі, пашыраюцца гарызонты мышлення, творчасці і быту народаў. Ажыццяўляецца тое, аб чым гаворыцца ў Праграме КПСС: «З перамогай камунізму ў СССР адбудзецца яшчэ большае збліжэнне нацый, узрасце іх эканамічная і ідэйная супольнасць, разаўюцца агульныя камуністычныя рысы іх духоўнага аблічча».

З калгасам імя Н. Астроўскага Манькаўскага раёна Чаркаскай вобласці ў калінінцаў даўняя дружба. Хлебаробы двух калгасаў спаборнічаюць, абменьваюцца дэлегацыямі, раяцца між сабой, як лепш весці грамадскую гаспадарку, аказваюць адзін другому практычную дапамогу.

Карэліцкія хлебаробы шмат перанялі ў манькаўцаў з практыкі кіравання буйнай сацыялістычнай сельскагаспадарчай вытворчасцю. Напрыклад, у Чаркаскай вобласці ў кожнай гаспадарцы даўно ўжо створаны камунгасы, якія ўзялі на сябе ўсе клопаты па пытаннях будаўніцтва і рамонту дамоў, гаспадарчых пабудоў, па добраўпарадкаванню населеных пунктаў, нарыхтоўцы і дастаўцы паліва. Карэліцкія хлебаробы прыйшлі да вываду, што такія ж камунгасы трэба мець і ім. Цяпер яны ўжо створаны. У калгасе Калініна, напрыклад, у камунгасе працуе брыгада будаўнікоў з сямі чалавек. Яму перададзена неабходная тэхніка: трактар МТЗ-50, трактар Т-16, дзве аўтамашыны, іншыя механізмы. У 1971 годзе камунгас выканаў будаўляных прац на суму звыш 11 тысяч рублёў.

Украінскія хлебаробы штогод аказваюць беларускім калегам вялікую дапамогу насеннем высокіх рэпрадукцый высокаўраджайных культур. Вось адзін з прыкладаў. Высяваючы азімую пшаніцу «міронаўская — 808» было заўважана, што гэты сорт ужо з чацвертай рэпрадукцыі пачынае рэзка зніжаць ураджайнасць. Аказваецца, «міронаўка» хутка выраджаецца. Трэба было аднаўляць насенне. Але дзе ж браць яго, калі насенневодства гэтага гатунку ў вобласці толькі заранджалася. І вось тут дапамаглі ўкраінскія сябры. Штогод яны адпускаюць па дзесяць — пятнаццаць тон насення «міронаўкі» першай ці другой рэпрадукцыі. Дзякуючы гэтай бескарыснай дапамозе ўраджай зернавых расце з году ў год. У першым годзе пяцігодкі калінінцы сабралі па 31,5 цэнтнера з гектара ў параўнанні з 13,7 цэнтнера ў 1966 годзе, а ўраджай азімай пшаніцы за гэты час павысіўся з 18 да 35,6 цэнтнера.

З Манькаўскага раёна ў Беларусь завезены таксама новыя перспектыўныя гатункі азімай пшаніцы айчыннай і зарубежнай селекцый, такіх, як «палеская», «гайнес», «юбілейная», «Аўрора» і інш. Усе яны пасеяны ў якасці эксперыменту на спецыяльных дзялянках для вывучэння іх прыспасаблення да мясцовых умоў.

У сваю чаргу беларускія калгаснікі аказваюць дапамогу ўкраінскім таварышам насеннай бульбай, лубінам і іншымі патрэбнымі для іх культурамі. Часта абменьваюцца дэлегацыямі, інфармуюць адзін другога аб дасягнутых поспехах, збіраюцца разам для падвядзення вынікаў сацыялістычнага спаборніцтва.

...З кожным годам растуць, набіраюць сілы таполі, пасаджаныя ў алеі Дружбы. Мацней развіваецца дружба двух калгасаў з братніх рэспублік.

*А. Чэрняк*

# Вясковая прыгажосць

Паўлы ў Бельскім павеце. Сярод зялёных дрэў стаіць жывапісна размаляваны драўляны дом. Міжволі спыняешся, каб паглядзець на яго, каб палюбавацца.

Аказваецца, што ўсё тут — і гэтае сонца, што ярка зіхаціць пад дахам ганка, і гэтых ільвоў, што бароняць спакой у сям'і, і ўсё іншае, — выканаў і размаляваў уласнаручна гаспадар гэтага дома Мікалай Філіпюк, вясковы столяр і ўвогуле майстар на ўсе рукі.

*Тэкст і Фота В. Рудчык*



# ФАЛЬКЛОР

*ЖАРТОЎНАЯ*




*Ні шуміць, ні гудзе:*
*Дромны дожджык ідзе.*
*А хто міне, маладзеньку,*
*Да й дадому завядзе?*
*А хто міне, маладзеньку,*
*Да й дадому завядзе?*
*Аказаўся казак*
*На салодкум мяду:*
*— Гуляй-гуляй, дзеўчынэнько,*
*То й дадому завяду.*
*Гуляй-гуляй, дзеўчынэнько,*
*То й дадому завяду.*
*— Ні прашу я цібе,*
*Ні вядзі ты міне:*
*Есць у міне ойцец-маці —*
*Будзе біці міне.*
*Есць у міне ойцец-маці —*
*Будзе біці міне.*
*Ой, ні б'еце міне,*
*І ні лайце міне,*
*Як я вам надаела —*
*Та аддайце міне.*
*Як я вам надаела —*
*Та аддайце міне.*
*Ох, аддайце міне*
*Да й за Ясенька,*
*Каб я была малада*
*Да й прыкрасненька.*
*Каб я была малада*
*Да й прыкрасненька.*
*Ох, аддайце міне*
*За настрычнавага*,*
*Каб я сваё бело лічко*
*Да настрынчывала**.*
*Каб я сваё бело лічко*
*Да настрынчывала.*

* слова незразумелае для спявачкі; хіба, павінна быць: «Настульчынаго», г. зн. сына Настулі.

** відаць, ад слова «выстрынчыць», «выстрынчваць» — г. зн. прыбраць, прыхарошыць, упрыгожыць. — МГ.

Запісаў 22 красавіка 1972 г. Мікалай Гайдук ад Лідзіі Салавей 1921 г. нараджэння, якая жыве ў вёсцы Лявонавічы Беластоцкага павету. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Сяргей Лукашук.

# СЯБРЫ ДЗЯЦЕЙ

Дзяржава наша заўсёды шмат увагі звяртала на выхаванне маладога пакалення. Але ў апошнія гады вельмі была падкрэслена справа паляпшэння апекі над дзецьмі.

Значна шырэй заняліся гэтым розныя грамадскія ўстановы.

Для каардынацыі працы розных устаноў на карысць дзяцей створана было Таварыства сяброў дзяцей (ТПД).

Таварыства сяброў дзяцей існуе ўжо ў нашым ваяводстве шмат гадоў. Дзесяць год назад праславілася яно на ўсю Польшчу стварэннем новага тыпу прадшколляў — на грамадскім утрыманні, так званых грамадскіх (сполэчных) прадшколляў. Жыццё паказала, як моцна яны былі патрэбны.

Значную частку сваёй дзейнасці ТПД прысвячае арганізацыі летняга адпачынку для дзяцей. Сёлета, дзякуючы большым фінансавым магчымасцям, якія ТПД атрымала ад розных устаноў, пашыраны ўсе формы летняга адпачынку. 2,7 мільёна злотых — гэта ўжо не такая малая сума. За гэтыя грошы зможа пабываць на пляцоўках ТПД 10 тысяч дзяцей. Будуць гэта пастаянныя і вандроўныя лагеры (зусім новая форма), дамы адпачынку для вясковых дзяцей у гарадах, аздараўляючыя калоніі пад апекай службы здароўя і іншыя.

Аздараўляючыя калоніі — гэта спецыяльны адпачынак для дзяцей са скрыўленым пазваночнікам, для хваравіта тоўстых, асобна для дзяцей з дрэнным вымаўленнем і іншыя. Там пад наглядам лекара дзеці, адпачываючы, будуць праходзіць адпаведны, патрэбны для іх здароўя курс лячэння. У гэтым годзе на аздараўляючых калоніях ТПД будзе таксама большасць вясковых дзяцей.

Па прыкладу Замброўскага павету, амаль усе паветы Беласточчыны ўвялі ў сябе так званыя «вчасы» для вясковых дзяцей. Ахвотных на такі адпачынак вельмі многа. У час тыднёвай пабыўкі дзеці два разы выязджаюць на экскурсіі — раз у Варшаву, другі раз — па Беласточчыне. Добра было б, каб ТПД магло пашыраць іменна гэту форму адпачынку вясковых дзяцей, якая вельмі хутка спадабалася і бацькам і дзецям. Але на гэта патрэбны фінансавыя сродкі.

У час летніх канікул пад апекай ТПД на вёсках арганізуюцца паўкалоніі, дзіцячыя станіцы, дзяцінцы. Колькасць іх таксама вельмі моцна залежыць ад фінансавых магчымасцей ТПД. У апошні час у справу арганізацыі дзяцінцаў на вёсцы ў месяцы найбольш гарачых палявых работ уключыліся сельгасгурткі. Супрацоўніцтва вясковых сельскагаспадарчых гурткоў з ТПД дае вельмі добрыя вынікі. Гурток мае сродкі і месца на дзяцінец, а ТПД забяспечвае апеку над дзецьмі.

Асаблівую праблему для ТПД прадстаўляюць дзеці бацькоў, якія скаціліся на так званае грамадскае дно: розныя п'яніцы, нярэдка злодзеі, малаадказныя за свае паводзіны людзі. Дзеці, якія вымушаны прабываць у такім асяроддзі, у дамах з кашмарамі п'янства, вельмі цяжкія ў выхаванні ў школе, непаслухмяныя, супярэчлівыя, раззлаваныя на жыццё.

ТПД ставіць сабе задачу памагчы гэтым дзецям убачыць лепшы свет, знайсці сяброў сярод дзяцей, стварыць ім такія ўмовы, каб і яны маглі спрабаваць звычайнага, бесклапотнага дзяцінства. З думкай аб іх ТПД накіравала да ўсіх прадпрыемстваў і ўстаноў, дзе працуюць бацькі гэтых «цяжкіх» дзяцей, просьбы знайсці для гэтых дзяцей месцы на летніх калоніях. Тымі ж дзецьмі, бацькі якіх нідзе не працуюць, ТПД займецца само.

У гэтым годзе па ініцыятыве Таварыства сяброў дзяцей у малых мясцовасцях будзе аддадзены ў карыстанне цэлы шэраг дзіцячых пляцовак для гульняў. Ва ўсходніх паветах нашага ваяводства будуць яны ў Трасцянцы (Гайнаўскі пав.), Бранску (Бельскі пав.), Гуранах (Сакольскі пав.), Васількове (Беластоцкі пав.), Харажоўцы (Дуброўскі пав.), Дзядковічах (Сямяціцкі пав.) і іншых.

За вялікі ўклад працы і шмат сэрца ў справу апекі над дзецьмі старшыня Ваяводскага праўлення Таварыства сяброў дзяцей Леакадыя Сарока нядаўна была ўзнагароджана Кавалерскім Крыжам Адраджэння Польшчы. Сардэчна віншуем!

*Яніна Чэрнякевіч*

НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

# Футбалісты з Валілаў

Дагэтуль мала калі і мала хто заводзіў гаворку на тэмы спорту ў вёсцы Валілы, Беластоцкага павету. Хлопцаў тут шмат, але не адчувалі яны асаблівай цягі да спорту. Часамі, бывала, возьмуць мяч ды выйдуць на спартыўную пляцоўку, выкарыстоўваючы вольны час у святочны дзень. Дагэтуль спорт тут пакутваў. Усё адмянілася неяк у гэтым годзе. Хлопцы заснавалі футбольную каманду. Прайшло ўсяго пару месяцаў, і ў Валілах нават старэйшыя жыхары пачалі заводзіць гаворку на тэму вясковага спорту. Футбольная каманда сыграла з такімі ж камандамі са Страшава, з Зуброў, Саколляга і Гарадка. Два з іх нават выйгралі. У апошні час прымалі яны ўдзел у грамадскай спартыўнай алімпіядзе ў Валілах-станцыі. Тут мы іх сустрэлі і зрабілі памятны здымак. Сёння падаем склад каманды: Міраслаў Дзярманскі, Сцяпан Дзярманскі (варатар), Генрык Ужэндоўскі, Мікалай Лісоўскі, Уладзіслаў Сядлецкі,



Сяргей Грыцук, Юрка Верабей, Юрка Тарасевіч, Баляслаў Матус, Вечаслаў Казёл, Славамір Жамойда.

*Тэкст і фота: (ЦЯ)*



 

